*У Берасьцейскай вобласьці афіцыйна ўведзена цэнзура. Каб надрукаваць перадвыбарчыя ўлёткі, кандыдаты ў дэпутаты мусяць атрымаць санкцыю абласнога цэнзара (стар.2)*




# СВАБОДА

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 42000
Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

21 лістапада 1995 г. №52 Кошт свабодны


# Міхаіл Чыгір не губляе аптымізму

*Прэм'ер паабяцаў стаць пчаляром, калі справы ў эканоміцы ў наступным годзе не палепшацца*

**Міхаіл Чыгір рашуча абверг чуткі аб тым, што згодна з прэзідэнцкай воляй хутка зьменіць прэм'ерскае крэсла на пасаду старшыні праўленьня Нацбанку. Але ён пацьвердзіў, што пойдзе ў адстаўку, калі ў наступным годзе справы не палепшацца. Некаторым журналістам, сярод якіх быў і карэспандэнт СВАБОДЫ, М.Чыгір паведаміў пасьля прэс-канфэрэнцыі, што ў выпадку адстаўкі ён зоймецца пчалярствам.**

А калі сур'ёзна, то прэм'ер настроены больш аптымістычна – як адносна свайго лёсу, так і лёсу беларускай эканомікі. М.Чыгір лічыць, што ў надыходзячым годзе нарэшце спыніцца падзеньне вытворчасьці, а выпуск тавараў для насельніцтва нават узрасьце на адзін працэнт. Дырэктарам прадпрыемстваў і прадпрымальнікам Чыгір паабяцаў невялічкае зьніжэньне прамых падаткаў (усяго на 2%) і больш значнае (на 7%) скарачэньне неабходных адлічэньняў у розныя фонды.

Значную ўвагу Чыгір удзяліў бюджэту на наступны год. Аказваецца, даходная частка бюджэту павялічыцца на 41%, а расходная на 43%, дэфіцыт прадугледжаны ў памеры 3%. Вырастуць выдаткі на культуру, сацыяльнае забесьпячэньне, на льготнае крэдытаваньне і субсідаваньне будаўніцтва жыльля, на падтрымку фэрмэраў. Але больш грошай будзе расходавацца таксама на ўнутраныя войскі, на ўтрыманьне турмаў і калоніяў.

Цікава было назіраць, як рашуча абыходзіў прэм'ер коўзкія пытаньні. Адносна "антыпрэзідэнцкіх" рашэньняў Канстытуцыйнага суда Чыгір ня стаў выказвацца, а параіў дачакацца вялікага "вэртыкальнага" сходу 20-21 лістапада і ўсё пачуць ад самога прэзідэнта (хаця журналістаў цікавіла пазіцыя менавіта прэм'ера). Бюджэт ён паабяцаў аднесьці на зацьверджаньне да прэзідэнта, калі ня будзе ў гэтым годзе новага ВС (хто ж ня ведае, што раней новага году новы парламант наўрад ці пачне працу). Прыватызацыю, па ягоных словах, трэба праводзіць, але сьпяшацца ня варта. І гэтак далей...

Разабраўшыся напрыканцы з нашымі даўгамі Расеі і ўпэўніўшы журналістаў, што ягоны папярэднік Вячаслаў Кебіў быў не зусім правы, калі сьцьвярджаў, быццам за год мы завінаваціліся ўсходняму суседу ўжо ўдвая больш, як год таму (на самой справе доўг павялічыўся з 435 млн. даляраў да 510 млн., але гэта бяз уліку 180% гадавых, якія паабяцаў спагнаць з Беларусі шэф Газпрому Рэм Вяхіраў). Міхаіл Чыгір разьвітаўся з прэсай, якая засталася вельмі задаволенай тым, што з ёй яшчэ па-людзку гавораць вышэйшыя прадстаўнікі выканаўчай улады. Нататнікі журналістаў былі поўныя лічбаў, а на вуснах круціўся наступны ўзор чыгіроўскай знаходлівасьці: на пытаньне польскага журналіста, з кім з кандыдатаў у прэзідэнты Польшчы – Валэнсам ці Квасьнеўскім – ён больш хацеў бы мець справы, беларускі прэм'ер імгненна адказаў: "З усенароднаабраным".

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**



**У людных месцах беларускай сталіцы стаяць пікеты ў падтрымку кандыдатаў у дэпутаты. Дэмакраты агітуюць пад бел-чырвона-белым сьцягам, камуністы – пад чырвона-зялёным. Агітатарам ад камуністаў (а гэта, пераважна, людзі сталага веку) часта бывае вельмі няпроста. Ім даводзіцца апраўдавацца і за 70 гадоў камуністычнага рэжыму, і за Кебіча, і за Лукашэнку. Акрамя таго, многія выбаршчыкі вельмі адмоўна і эмацыйна рэагуюць на абяцаньні камуністаў "сделать все как было". Побач пікет дэмакратаў з заклікам: "Молодые! Давайте сделаем нашу жизнь лучше, иначе они сделают ее невыносимой". Маладыя "за", але ці прыдуць яны галасаваць?..**

## Візіты

На 27-28 лістапада запланаваны візіт у Польшчу прэм'ер-міністра М.Чыгіра.

## Крэдыты

Бэльгійскі ўрад пад уласныя гарантыі выдзяліў нашай краіне таварны крэдыт на суму 350 млн. бэльгійскіх франкаў. Крэдыт плануецца выкарыстаць на закуп мэдычнага і тэхнічнага абсталяваньня.

## Сустрэчы

У суботу, 25 лістапада, а 12-й гадзіне ў Менску на пляцы Я.Коласа (каля філармоніі) адбудзецца сустрэча выбаршчыкаў з дэпутатамі апазіцыі Народнага Фронту.

## Злачыннасьць

Як паведаміў на прэс-канфэрэнцыі в.а. Генэральнага пракурора Васіль Капітан, злачыннасьць за 10 месяцаў гэтага году вырасла на 17% у параўнаньні з адпаведным пэрыядам мінулага года.

## Абсурд

14 лістапада на паседжаньне Кабінэту міністраў не дапусьцілі сьпікера парламанту Мечыслава Грыба, а таксама чатырох іншых членаў Прэзідыюма Вярхоўнага Савету, якія раней атрымалі афіцыйныя запрашэньні ад Кабінэту міністраў. Сьпіс запрошаных напярэдадні паседжаньня запатрабавалі ў прэзідэнцкую адміністрацыю, дзе і выкрэсьлілі прадстаўнікоў Вярхоўнага Савету. Прычым сп.Грыбу перад паседжаньнем патэлефанавалі з Кабінэту міністраў і паведамілі, што яго там не чакаюць. Сьпікер на паседжаньне не пайшоў. А вось астатніх запрошаных членаў Прэзідыюма ВС, якія ня ведалі пра рашэньне прэзідэнцкай адміністрацыі, спыніла каля ўваходу ва ўрадавыя апартамэнты ахова.

СІМ

# У Польшчы выбралі Квасьнеўскага

Прэзідэнцкія выбары ў Польшчы завяршыліся ў нядзелю перамогаю 41-гадовага лідара посткамуністычнага Саюзу левых Аляксандра Квасьнеўскага. Паводле папярэдніх вынікаў, якія перадало агенцтва ПАП, Квасьнеўскі набраў 52,08% галасоў, Лех Валэнса – 47,92%.

# Мех грошай для прэзідэнта

**25 лістапада Згуртаваньне беларускіх студэнтаў пачне акцыю "Мільён – прэзідэнту".**

За некалькі дзён студэнты спадзяюцца сабраць мільёны дробных купюраў беларускіх рублёў, выведзеных з абароту. Мяхі з грашыма яны зьбіраюцца перадаць у адміністрацыю прэзідэнта. Такім чынам студэнты хочуць дапамагчы Аляксандру Лукашэнку выканаць свае перадвыбарчыя абяцаньні – запусьціць заводы "да новага году", скампэнсаваць халадзільнікамі ды тэлевізарамі страчаныя ўклады насельніцтва і г.д.

**Яўген АЛАДКА**

# Застрэліўся ахоўнік Лукашэнкі

16 лістапада ў сваёй кватэры застрэліўся ахоўнік прэзідэнта 33-гадовы Дзіскавец. Прычыны самагубства высьвятляе міліцыя.

**Валодзя ЯНЧУК**



АКТУАЛЬНА

# Ці будзе Грыб прасіць дазволу?

*Прэзідэнт уключыў Старшыню Вярхоўнага Савету і Старшыню Канстытуцыйнага суда ў свой кадравы рэестр*

**Цяпер Лукашэнка будзе асабіста даваць ім дазвол для камандзіровак за мяжу.**

На мінулым тыдні афіцыйныя газэты надрукавалі прэзідэнцкі ўказ N 464 "Аб стварэньні кадравага рэестру кіраўніка дзяржавы Рэспублікі Беларусь".

У пералік N 1, вызначаны ўказам, уваходзяць кіраўнікі ўсіх уладных структураў краіны – Вярхоўнага Савету, Кабінэту міністраў, Пракуратуры, Судоў, Нацбанку, Кантрольнай палаты. Пералік N 2 уключае ў сябе чыноўнікаў меншага рангу – віцэ-прэм'еры, міністры, паслы, абласное начальства, а таксама старшыні гарвыканкамаў і райвыканкамаў, кіраўнікі дзяржаўных вышэйшых навучальных установаў, галоўныя рэдактары дзяржаўных газэтаў і часопісаў, кіраўнікі "важнейшых" дзяржаўных аб'яднаньняў, прадпрыемстваў, арганізацыяў і ўстановаў. Для ўсёй гэтай вельмі паважанай кампаніі чацьвёрты пункт указу ўстанаўлівае, што "накіраваньне ў службовыя замежныя камандзіроўкі,...незалежна ад крыніцаў фінансаваньня гэтых камандзіровак, ажыцьцяўляецца з пісьмовай згоды прэзідэнта Рэспублікі Беларусь..."

Адразу ж уяўленьне малюе маркотную карціну: з прыёмнай Лукашэнкі панура выходзіць Мечыслаў Грыб. У ягоных руках уласнаручная заява, у якой напісана: "Прашу выпусьціць мяне ў Страсбург на сэсію Рады Эўропы. Расходы аплочаны прымаючым бокам". На заяве – размашыстая рэзалюцыя: "Атказать в связи з тяжолым палажэнием в риспублике. А. Лукашенко."

Але гэтая фантазія можа зрабіцца зусім рэальнай явай, калі чарговы прыклад лукашэнкаўскай законатворчасьці ня будзе асрэчаны адпаведным чынам. Напэўна, Мечыславу Грыбу ці Валерыю Ціхіню ня вельмі захочацца выконваць вышэйапісаныя ролі, таму можна чакаць, што Канстытуцыйнаму суду неўзабаве будзе працы.

"Ня выключана, што ў бліжэйшыя дні можа быць узбуджаная справа наконт канстытуцыйнасьці гэтага ўказу", – заявіў у інтэрвію СВАБОДЗЕ намесьнік старшыні Канстытуцыйга суда Валеры Фадзееў. Ён прызнаў, што для яго асабіста ў гэтым дакуманце "ёсьць незразумелыя рэчы", але калектыў КС палажэньні ўказу яшчэ не абмяркоўваў.

Між тым, чарговаму "канстытуцыйна-небясьпечнаму" кроку прэзідэнта папярэднічала даволі своеасаблівая артпадрыхтоўка. 15 лістапада, за два дні да публікацыі ўказу, у газэце "Советская Белоруссия" быў надрукаваны "ліст у рэдакцыю" пад загалоўкам "Канстытуцыйны суд абараняе гонар мундзіру". Аўтар допісу – прэс-сакратар Вярхоўнага суда Славамір Антановіч – вельмі рэзка і груба абвінаваціў судзьдзяў КС у нясьціпласьці і мэркантыльных інтарэсах. Антановіч сьцьвярджаў, што КС траціць грошы падаткаплацельшчыкаў на свае "бязмэтныя ваяжы". Увесь ліст быў выкананы, дарэчы, цалкам у замяталінскім стылі: перакручваньне фактаў, дробныя зачэпкі з пераходам да псэўданародных высноў.

"Мы лічым, што ў гэтым лісьце прысутнічаюць элемэнты паклёпу на Канстытуцыйны суд", – заявіў Валеры Фадзееў. Намесьнік Старшыні КС падкрэсліў, што ўсе службовыя камандзіроўкі за мяжу (а іх было зусім нямнога) судзьдзяў Канстытуцыйнага суда аплочваліся прымаючым бокам. "КС існуе ў Беларусі ўсяго некалькі месяцаў – мы езьдзім вучыцца", – падкрэсьліў Фадзееў. Больш таго, амаль увесь склад Вярхоўнага суда, як сказаў Фадзееў, патэлефанаваў сваім калегам у КС, выказаўшы абурэньне лістом Антановіча. Высьвятлілася, што ніхто не даваў даручэньне прэс-сакратару выступаць на старонках газэты з падобнымі сьцьвярджэньнямі.

Сьмелыя ж, аднак, пайшлі ў нас чыноўнікі – робяць тое, пра што непасрэднае начальства іх ня просіць. Відаць, самому ў камандзіроўку захацелася...

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

# Перадвыбарчую агітацыю кантралююць цэнзары

## *У Берасьцейскай вобласьці афіцыйна ўведзена цэнзура*

**З гэтым сутыкнуліся народнафронтаўскія кандыдаты ў дэпутаты ВС У.Базан, Л.Несьцярчук, І.Судак.**

Спачатку цэнзары прымусілі іх выкінуць з тэксту іхнай праграмы словы: "...Будем добиваться отстранения законным путем от власти Лукашенко и его прислужников за нарушение Конституции и Законов".

Але на гэтым цэнзура сваё ўмяшаньне ў справы кандыдатаў не спыніла. Калі ўжо працаваў друкарскі станок, у друкарню паступіла распараджэньне намесьніка старшыні Берасьцейскага аблвыканкаму Леаніда Лемяшэўскага (дарэчы таксама кандыдата ў дэпутаты ВС), які загадаў, каб усе палітычныя матар'ялы кандыдатаў друкавалі толькі з дазволу абласнога цэнзара – начальніка ўправы па ахове тайнаў у друку. У выніку старанай працы "вэртыкальнага" з праграмнай заявы было выкрэсьлена наступнае: "Зато о себе "всенародноизбранный" не забывает. Бронированный "Мерседес" президента стоит 350 тыс. долларов, на личную охрану выделяется ежедневно 40 тысяч долларов, президентский спортивный комплекс и теннисный корт в Дроздах выльется нам более чем в 70 тысяч долларов. Личный самолет обошелся белорусскому народу в 45 миллионов долларов (такую роскошь не позволяют себе президенты Франции и Америки, канцлер Германии, премьер-министр Великобритании и т.д.). А.Лукашенко дарит российским "денежным мешкам" средства за транзит через нашу территорию – около 2,3 миллиарда долларов в год. Это значит, что из кармана каждого жителя Беларуси, включая грудных детей и глубоких стариков, изымается примерно 4 миллиона рублей в год".

З праграмы пінскага кандыдата ў дэпутаты Яўгена Шатохіна цэнзура выкінула словы: "Вольная Беларусь – Беларусь без прэзідэнта".

**П.С.**




Рэзалюцыя і штамп абласнога цэнзара

# Грошай хапае толькі на хлеб

## *Заводы прастойваюць, а рабочыя сядзяць на галодным пайку*

**Ёсьць людзі, якія стараюцца ніколі не пазычаць грошай. Але сустракаюцца і аматары рабіць вялікія пазыкі. І атрымліваецца ў іх усё вельмі спрытна, нават жыць на пазычанае ўдаецца. Робіцца гэта элемэнтарна. Кожны раз, каб аддаць даўгі, яны зноў пазычаюць грошы, але ў іншага знаёмага. Карацей, адбываецца своеасаблівая ланцуговая рэакцыя.**

Штосьці падобнае адбываецца сёньня і ў эканоміцы. Але крыху ў іншым выглядзе. Адно прадпрыемства атрымлівае ад другога папавер або за палову сумы патрэбную сабе прадукцыю. Аднак час ідзе, а грошай яно плаціць як бы не зьбіраецца – бо няма чым, паколькі ў сваю чаргу нехта яму своечасова не заплаціў. Тое ж самае адбываецца з банкаўскімі крэдытамі. У банках, як правіла, дакладна ведаюць, якія сумы няма чаго чакаць, бо яны ня будуць вернутыя ніколі. У іншых краінах маёмасьць тых, хто не вяртае даўгі, прадаецца з малатка. У нас такі мэханізм не існуе – у нас квітнее своеасаблівая кругавая парука: усе ўсім вінныя грошы.

У Горадні ўнутрыгарадзкая крыдыторская запазычанасьць роўная 320 млрд. рублёў, а дэбітарская – 240 млрд. Праўда крыху зьменшыўся дэфіцыт бюджэту. Гарадзкім уладам не хапае сёньня каля 20 млрд.руб. (нядахоп у абласным бюджэце складае амаль 400 млрд.). Між іншым, памеры дэфіцыту ў гарадзкой казьне роўныя месячнаму бюджэту. Аднак з пачаткам ацяпляльнага сэзону выдаткі зноў пачынаюць расьці. Таму ўлады ламаюць сёньня галаву – як яшчэ больш скараціць фінансаваньне бюджэтных сфэраў.

А ў прамысловасьці горада сітуацыя наступная. Сёлета ўсе прадпрыемствы, апроч харчовых, спынялі сваю працу. Страты працоўнага часу дасягнулі 1 млн. 688 тыс. чалавека-дзён. Гэта на 18% больш за адпаведны леташні пэрыяд. За 10 месяцаў спад вытворчасьці адбыўся на 70% прадпрыемстваў. Толькі некаторыя ў трэцім квартале сталі працаваць больш стабільна – аб'яднаньні "Азот" і "Хімвалакно", шклозавод і завод аўтаагрэгатаў.

Адносна някепска ідуць справы толькі на харчовых прадпрыемствах – мяса-і хлебакамбінатах, таму што большасьць заробкаў людзі сёньня трацяць менавіта на харчаваньне. А гарадзкі рэкорд павышэньня колькасьці прадукцыі – 179% – паказаў ліквора-гарэлачны завод. Гэта сьведчыць аб тым, што гаражане не адмаўляюцца таксама і ад чаркі.

Склады ў горадзе запоўненыя нерэалізаванай прадукцыяй – 52% ад агульнага месячнага выпуску. Гэта ў сярэднім, а на некаторых прадпрыемствах гэты паказьнік значна вышэйшы і даходзіць да 90-110%. Самыя вялікія партыі нерэалізаванага тавару на прадзільна-ніткавым аб'яднаньні, якое больш за паўтары месяцы працавала на склад. Выйсьце, на думку намесьніка старшыні Гарадзенскага гарвыканкаму па эканоміцы Валянціны Лаўцэль, ёсьць у такой сітуацыі толькі адно – зьмяншаць цэны, каб прадаць. Такі крок пагражае з аднаго боку стратамі, але затое дазволіць атрымаць хоць нейкія абаротныя сродкі. Праўда, як прызнае сп-ня Лаўцэль, некаторым прадпрыемствам і такая мера не дапаможа. Напрыклад, гэта датычыць буйных стратных прадпрыемстваў, якіх у горадзе пяць: тонкасуконнае і прадзільна-ніткавае аб'яднаньні, "Волна", "Радыёпрыбор", завод такарных патронаў. А таксама двух нізкарэнтабэльных: абутковай фабрыкі і камбіната будаўнічых матар'ялаў.

Паколькі амаль паўсюль скараціліся аб'ёмы вытворчасьці, то адначасова вызваліліся і памяшканьні. Самае разумнае – здаваць іх у арэнду фірмам, якія займаюцца вытворчасьцю. Аднак у імкненьні атрымаць важкі прыбытак прадпрыемствы душаць фірмы арэнднай платай. Тры даляры за квадратны мэтар, на думку сп-ні Лаўцэль, – гэта замнога для вытворчых памяшканьняў. Таму прыватныя вытворцы пачынаюць пакідаць прадпрыемствы. У выніку, карысьці не атрымліваюць ні тыя, ні другія.

Стан вытворчасьці вызначае і заробкі. За 9 месяцаў сярэднія заробкі на прадпрыемствах Горадні дасягнулі ўсяго 776 тыс. рублёў. І тое дзякуючы таму, што ў апошні месяц (у верасьні) іхны ўзровень узьняўся да 1 млн. 91 тыс. рублёў. На эканамічна больш здаровых прадпрыемствах заробкі, канечне, перавышаюць сярэдні паказьнік. На "Азоце" у 1,9 разы. Гэта найбольш. А на славутым ліквора-гарэлачным заводзе – у 1,8 разы. Тым часам на шмат якіх прадпрыемствах заробкі значна меншыя за агульнагарадзкі ўзровень. Напрыклад, на пальчаткавай фабрыцы ў месяц рабочыя атрымлівалі ўсяго па 409 тыс. рублёў. Карацей, толькі на хлеб. У лепшым разе на такія грошы можна купіць 200 боханаў жытняга хлеба або 10-13 кг мяса.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Мэдыцына на каленях

**У Бабруйску пральні адмовіліся прымаць бялізну ад мэдычных установаў горада і не вяртаюць тую, што прынялі раней.**

Выключэньне зрабілі толькі для радзільнага дому. Астатнім паставілі ўмову: будуць працаваць толькі пасьля таго, як установы разьлічацца за паслугі. Агульная запазычанасьць мэдыкаў розным установам горада перавысіла 30 млрд. рублёў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Ніхто ня хоча плаціць

**Начальнік Менскага міжраённага энэргаагляду Галіна Жынко ў роспачы: ніхто ня хоча плаціць за электраэнэргію – ні прадпрыемствы, ні насельніцтва.**

Колькасьць даўжнікоў у Менску і Менскім раёне падвоілася (у параўнаньні з пачаткам году). Энэргаагляд прымае жорсткія меры і прыкладна 30 кватэраў штомесяц адключае ад сеткі. Але апошнім часам, па словах Г.Жынко, зьяўляюцца абанэнты, якія нават самі просяць адключыць ім электраэнэргію, бо ня маюць чым заплаціць. Тым часам сотні жыхароў нават ня ведаюць, колькі кілаватаў яны спажываюць, бо іхныя лічыльнікі скралі, а жыльлёва-камунальная служба не ўстанаўлівае новых – няма грошай.

Кантралёрам энэргаагляду працаваць стала цяжэй. Абанэнты не пускаюць іх у кватэры, лаюцца, а некаторыя гаспадары нават палохаюць сабакамі.

Калі кватэры асобных грамадзянаў за неаплату энэргаагляд адключае ад электрасеткі, то прамысловыя прадпрыемствы, калгасы, вайсковыя часткі і транспарт паявлічваюць свае даўгі бесперашкодна. Напрыклад, Менскі трактарны завод заявінаваціўся за электраэнэргію 144 мільярды. Але нядаўна асабіста прэзідэнт Лукашэнка распарадзіўся, каб 100 мільярдаў з МТЗ пакуль не спаганялі. Праўда, заводу шасьцярняк, які мае 28 мільярдаў рублёў доўгу, энэргаагляд пагражае адключыць электрычнасьць.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Прафсаюзнаму лідару «шыюць справу»

## *За ўдзел у пікеце, якога не было, кандыдату ў дэпутаты Мікалаю Зіміну пагражае 6 месяцаў турмы*

Згодна з законам, атрыманьне дазволу на правядзеньне пікету не патрэбнае. Стой з плакатам, дзе хочаш... Але гэта толькі здаецца. Калі ты не вэтэран з ардэнамі на грудзёх, не пэнсіянэр з чырвоным сьцягам, які стаптаў ужо ўсе газоны ў скверы насупраць прэзідэнцкага палацу, не актывіст афіцыйнага ганчарукаўскага прафсаюзу, а належыш да Незалежнага прафсаюзу, у цябе, аказваецца, іншае права. Спасылаючыся на нейкую паперу мэра Ярмошына, якую нікому не паказваюць, цябе могуць пасадзіць у міліцэйскую машыну і адвезьці ў Маскоўскі РАУС, дзе складуць пратакол, з якога вынікае, што ты – самы злосны хуліган, а не добрасумленны грамадзянін.

Менавіта такія абвінавачваньні былі прад'яўленыя віцэ-старшыні Незалежнага прафсаюзу Мікалаю Зіміну з Салігорску, якога затрымалі каля Менскага гарвыканкаму. "Парушальнік" нават не пасьпеў разгарнуць плакаты, на якіх не было ніводнага палітычнага лозунгу, акрамя "Не – зьбядненьню народа" ды "Заклікаем урад выконваць генэральнае пагадненьне!" Зіміна спачатку абкружылі міліцыянты, а потым пасадзілі ў машыну і завезьлі ў Маскоўскі РАУС. Там склалі пратакол, адпаведна якому сп.Зіміну "засьвяціў" 157 артыкул Кодэксу адміністрацыйных парушэньняў – што ён, нібыта, аказаў супраціўленьне работнікам міліцыі. Вольга Рубіна, прафсаюзная актывістка, якая знаходзілася побач са сп.Зіміным на момант ягонага затрыманьня, сьцьвярджае, што ніякага супраціўленьня ён не аказваў, рукамі не размахваў (як запісана ў пратаколе), бо нават рукі былі занятыя – трымаў рулон з плакатамі.

На працягу тыдня Маскоўскі суд, які разглядаў справу Зіміна, некалькі разоў браўся за яе вырашэньне. І, нарэшце, адпусьціў яго дадому, але зусім ня з мірам. Даведаўшыся, што пікетчыка вылучылі кандыдатам у дэпутаты ў гарадзкі і абласны саветы, суд вырашыў дамагацца пазбаўленьня сп.Зіміна кандыдацкай недатыкальнасьці. Калі ім удасца гэта зрабіць, Мікалаю Зіміну, які выказваўся ўсяго толькі за выкананьне ўрадам абяцаньняў, дадзеных рабочым, пагражае паўгода турэмнага заключэньня. Бо дзесяць сутак "за актыўную грамадзянскую пазіцыю" яму ўжо давалі.

І апошні момант. Пасьля затрыманьня М.Зіміна начальнік Маскоўскага РАУС Станіслаў Немагай спасылаўся на нейкае распараджэньне мэра сталіцы Ярмошына, якім той забараніў пікетаваньне гарвыканкаму. Аднак, ён не паказаў гэтую паперу ні прафсаюзным актывістам, ні журналістам. Ды калі нават ёсьць такая папера, то нічым іншым, як парушэньнем заканадаўства, гэты дакумант назваць нельга. Пікетаваньне не патрабуе спэцыяльнага дазволу. Гэта дэмакратычны і мірны сродак выказваньня патрабаваньняў і абароны сваіх правоў, гарантаваных Канстытуцыяй.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

# Балатавацца будуць ня ўсе

**У Гарадзенскай вобласьці выбарчыя камісіі не зарэгістравалі 6 кандыдаў у Вярхоўны Савет. Яшчэ двое адмовіліся ад змаганьня самі.**

Сярод тых, каго не зарэгістравалі, С.Гараеў – начальнік прэзідэнцкай службы кантролю ў Гарадзенскай вобласьці. Хоць ён і прафэсійны юрыст, але не ўлічыў таго, што калектывы, якія вылучылі яго, не самастойныя, а зьяўляюцца падраздзеламі больших арганізацый.

Болдзінская акруговая камісія адмовілася яго зарэгістраваць. Гэтае рашэньне падтрымаў Цэнтрвыбаркам. Сп.Гараеў кінуўся ў Вярхоўны суд, які прымусіў Цэнтральную выбарчую камісію скасаваць сваё рашэньне і зарэгістраваць прэзідэнцкага кантралёра. Гэта адбылося 16 лістапада. А праз дзень газэта "Гродненская правда" зьмясціла пастанову Цэнтрвыбаркаму на самым відным месцы, дзе раней друкаваліся пастановы ЦК КПСС. Ніжэй партрэт сп.Гараева з ягонай праграмай. Карацей, самы важны кандыдат, бо іншых у гэтым нумары газэты няма.

Ня выключана, што на Вярхоўны суд паўплывала дачыненьне Гараева да прэзідэнцкай каманды. Тым жа часам на сьмеласьць рашэньня Болдзінскай акруговай камісіі мог аказаць уплыў той факт, што сп.Гараеў "на нажах" з кіраўніком прэзідэнцкай вэртыкалі вобласьці Аляксандрам Дубко.

Выбарчыя камісіі праявілі прынцыповасьць і ў іншых выпадках. Некалькім кандыдатам у абласны савет таксама было адмоўлена ў магчымасьці балатавацца. Сярод тых, каго не зарэгістравалі, старшыня Ленінскага райвыканкаму Горадні сп.Казялкоў і старшыня Кастрычніцкага райсавету Л.Школьнік.

**Антон БАЗЫЛЕВІЧ**

# Вось вам і «куриные окорочка»...

**Магілёўская бройлерная фабрыка апынулася ў стане фактычнага банкруцтва.**

Яе запазычанасьць перавысіла 14 млрд. рублёў, што складае кошт маёмасьці самой фабрыкі. Аналагічная прадукцыя замежных вытворцаў (усяго на 10-20% даражэйшая, але лепшай якасьці) пачынае выцясьняць мясцовую з рынку.

Выратаваць фабрыку могуць толькі замежныя інвэстыцыі. На рэканструкцыю прадпрыемства патрэбна ня менш аднаго мільёну даляраў. Але жадаючых даць такія грошы пакуль няма.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

*Два эпизода из всемирной истории, вызывающие так много аналогий и будящие так много ассоциаций*

# 1.Так кто же у нас «наполеончик»?

**Когда-то, с год назад, наш любимый руководитель решил блеснуть перед любящим его народом своим поэтическим дарованием и продекламировал: "Антончик – наполеончик".**

Кроме поэтической цели, как я понимаю, преследовалась и еще одна – политическая. А именно, дискредитировать г.Антончика, дескать смотрите – рвется в наполеончики. Мне уже тогда приписывание Антончику этого греха показалось более, чем странным, потому что сам автор этой уже бессмертной рифмы подавал гораздо больше поводов подозревать в этом стремлении именно его. Как в той байке про вора, что громче других кричит – держи вора. Прошел год и мои подозрения с блеском подтверждаются. Привлек мое внимание этот каламбур еще и по той причине, что мне достаточно хорошо знакома биография одного политического деятеля, который уже вписан в анналы истории точно под таким прозвищем – наполеончик. С некоторыми страницами биографии этого замечательного мерзавца я и собираюсь ознакомить читателя.

С 1932 по 1944 Гватемалой правил генерал Хорхе Убико. В то время эта страна являла собой самый классический образец банановой, не в переносном, а в самом прямом смысле, республики. Огромные территории страны были заняты под банановые плантации, где царствовала знаменитая "Юнайтед Фрут энд компани" (*Наш дом – Газпром?* – **С.Н.**).

Вот что пишет о том времени известный гватемальский политик Хакобо Арбенс, который был президентом Гватемалы с 1951 по 1954 гг. "Рабочие тогда не имели ни трудового законодательства, ни регламентированного рабочего дня, ни определенной заработной платы". Не правда ли, что-то до боли знакомое вырисовывается? Читаем дальше. "К тому же не существовало профсоюзов. В стране беспощадно подавлялось свободное слово". Не правда ли, ну, что-то неуловимо близкое?

Цитирую дальше по книге Норберта Фрида "Улыбающаяся Гватемала". "...Хорхе Убико... достиг наилучшего поста в государстве. И не на шесть лет, как следовало по Конституции, которой он присягал. Вскоре оказалось, что... он хотел быть диктатором пожизненно. Он отменил выборы местных органов власти (*в нашем случае – советы первых уровней* – **С.Н.**), уничтожил последние следы автономии районов (*в нашем случае – президентская вертикаль* – **С.Н.**), ... он тщательно заботился о том, чтобы доходы трудящихся были низки и удерживали население на грани голода. Объяснял это Убико следующим образом: "Если бы у народа были в кармане деньги, он давно бы вышвырнул меня вон. Старайся, чтобы в полдень все его мысли были направлены на то, как достать деньги на ужин и тогда в стране будет политическое спокойствие". "Убико поучал всех, он всегда лучше всех знал как и что надо делать... Он совал свой нос в самые мелкие торговые сделки (*в нашем случае – ревизии банков, инвест фондов и т.п.* – **С.Н.**). На озере Атитлан он учил местных рыбаков, как надо грести... Точно также все выглядело, когда диктатор вспоминал о культуре... Так как он во всем разбирался, в том числе и в музыке, то строго проинструктировал руководителя Национального симфонического оркестра какими инструментами пользоваться, что играть и как играть..." (*А.Г. в "гостях" у С.Кортеса* – **С.Н.**).

Диктатор не раз заявлял, что главная его опора – это спецслужбы, армия и поддержка великого северного соседа (*в нашем случае – восточного*). С этим был согласен и великий гватемальский поэт, эссеист и публицист Луис Кардоса-и-Арагон: "Гватемала имела армию, которая в своей собственной стране вела себя как вражеское оккупационное войско". Что касается армии, то у нас пока дело до этого не дошло, а что касается спецслужб и спецподразделений, то комментарии, как говорится, излишни. Подтверждал это и корреспондент американского журнала "Тайм" в Гватемале Уильям Крем: "На улице невозможно было избежать наблюдения по меньшей мере двух шпиков. В канцеляриях высших чиновников правительства сидели тайные агенты, которые шарили в их шкафах". (*Вспомним обыск на квартире премьер-министра.*)

В молодости кумиром Убико был Наполеон. Секретарь его личной канцелярии Сотомайоа так пишет об Убико образца 1903 года: "...Старинные зеркала у него в доме, когда он примеряет форму и новую позу, показывают ему черты современного и охотно улыбающегося Наполеона". Его дополняет Норберт Фрид: "Кажется, мания величия владела Убико, действительно, уже с самой ранней юности. Он во что бы то ни стало хотел выглядеть как Наполеон, подражал его прическе, фотографировался в его позах, увесил стены своей квартиры и канцелярии бесчисленными портретами императора, на всех столах стояли зажигалки, пепельницы и пресс-папье с изображениями великого образа".

Но поскольку при всех своих амбициях Убико оставался Наполеоном только в рамках несчастной, распятой им Гватемалы, это дало повод журналистам соседних стран (в самой Гватемале кто бы осмелился?) присвоить ему титул – "Наполеончик карибского бассейна".

Но особенно потрясает меня – гражданина Беларуси – оценка экономической ситуации в Гватемале накануне свержения диктатора. Вот что писал соратник Х.Арбенса, публицист Муньос Меани накануне "праздника угнетенных": "Система латифундий (*колхозов?* – **С.Н.**) и ее социальное последствие – крепостная зависимость безземельных крестьян – сохраняется лишь потому, что у нас нет настоящего класса капиталистов, и что продолжается господство феодальных помещиков (*председателей колхозов и "красных" директоров?* – **С.Н.**), лишь внешне принявших облик буржуазии... Необходимо поддерживать в Гватемале переход от примитивных отношений к зачаткам капитализма". Как это в точку, как это актуально для нашей Беларуси...

Такой вот эпизод из всемирной истории, вызывающий так много аналогий и будящий так много ассоциаций. Сейчас мы с вами являемся очевидцами-свидетелями великого исторического таинства: на наших глазах эстафетную палочку "наполеончика карибского бассейна", спустя 50 лет, принимает другой человек, вполне заслуженно претендующий на титул "наполеончика Восточно-европейской равнины". Но причем здесь Антончик, никак не могу понять?

**ПРИЛОЖЕНИЕ**

РЕКОМЕНДУЕМЫЙ СПИСОК ЛИТЕРАТУРЫ СОИСКАТЕЛЯМ ЛАВРОВ РЕГИОНАЛЬНЫХ НАПОЛЕОНЧИКОВ:

***М.А.Астуриас "Сеньор Президент"; Г.Г.Маркес "Осень Патриарха".***

Очень интересную информацию о закономерных финалах всех подобных авантюр можно почерпнуть из популярной и глубоко познавательной брошюры известного советского журналиста-международника ***Олега Игнатьева "Штурм Тисканы: последние дни режима Сомосы"***. Политиздат, 1979 год.

О том, как и чем гватемальский народ воздал своему наполеончику, вы прочтете в другой книге лауреата Нобелевской премии по литературе за 1967 год ***Мигеля Анхеля Астуриаса "Глаза погребенных"***. Прогресс 1968г.

О дальнейшей судьбе некоторых экс-наполеончиков и их подручных можно узнать из регулярно выходящих бюллетеней международной правозащитной организации "Международная Амнистия". Например, о заслуженной благодарности боливийского народа своему наполеончику можно узнать из номера за июль этого года.

# 2. Коммунисты считают, что есть хунты плохие и хорошие

**В поведении наших белорусских коммунистов тоже просматриваются некоторые аналогии с Латинской Америкой. Похоже, во взаимотношениях с нашим "сеньором президентом" они вдохновляются примером из недавнего прошлого своих аргентинских товарищей.**

С 1976 по 1983 год у власти в Аргентине стояла военная хунта во главе с генералом Хорхе Рафаелем Виделой. Военные вели беспощадную борьбу с демократической оппозицией, для чего были созданы секретные карательные спецподразделения. За этот период бесследно исчезло более 20-ти тысяч аргентинцев. Среди них были поэты, журналисты, инженеры, профсоюзные активисты. Чилийский коллега аргентинских охотников за "врагами народа" генерал Пиночет предстает шаловливым мальчиком в сравнении с ними. В Аргентине похищали и уничтожали оппозиционеров семьями, чтобы вырвать заразу с корнями. Большинство исчезнувших составляла молодежь до 35 лет. Вот почему еще до сих пор "бабушки с майской площади" (общественная организация родственников исчезнувших) пытаются что-нибудь узнать о судьбе своих внуков, которым на момент похищения было по 12, 10, 5 лет, а кому и несколько месяцев.

Но вот странное дело. В списках исчезнувших нет коммунистов. Почему? А потому что руководство компартии Аргентины пришло к выводу, что в целом, несмотря на репрессии в стране, хунта проводит антиимпериалистическую политику в интересах народа (имелось в виду, наверное, торговая дружба с СССР и война с империалистической Британией за Фолклендские (Мальвинские) острова), а потому идти против хунты – значит идти против народа, а этого себе аргентинские товарищи позволить не могли. Поэтому руководством КПА был заключен негласный договор с военными. Коммунисты не борются против Хунты, а военные не трогают коммунистов. А чтобы не случалось недоразумений, охране были переданы списки членов КПА. Поэтому в то время в Аргентине нередки были такие эпизоды. Во время облавы или ареста кто-то из арестованных вдруг, не сопротивляясь и заложив руки за голову, громко и гордо заявлял, – "Сой коммуниста!" (Я коммунист!). Тут же его фамилию сверяли со списками и если такую находили, то бесстрашного борца за народное счастье сразу же отпускали домой пить матэ (аргентинский чай). Гадко? А видеть в одной колонне баркашовцев и ветеранов ВОВ не гадко? Это в России. А у нас на Беларуси вместо баркашей – СС БР, организация в открытую всем демонстрирующая свое коричневое нутро (только вместо немецких сапог – славянские лапти). И ее "соколов" тоже частенько можно увидеть в обнимку с нашими ветеранами ВОВ и КПСС.

Белорусских коммунистов образца 90-х смело можно заносить в книгу рекордов Гинесса, как самых великих лицемеров 20 века. Впору и орден для них учредить, имени капитана Миляги (персонаж из "Похождений Чонкина").

**Семен НИТКО**

ПИСЬМО В РЕДАКЦИЮ

# Такие власти не заслуживают комплиментов

Уважаемая редакция СВАБОДЫ.

В вашей газете от 4.11.95 г. в статье "Улады даюць ксяндзам час падумаць" указано, что ксендза Эдварда Лоека власти хотели выслать в Польшу за организацию крестного хода из Шерешево в Пружаны и что выслать ксендза не позволили верующие.

Интересно с каких пор власти стали считаться с мнением верующих, тем более католиков? Зря вы расточаете такие комплименты властям, которые имеют твердую установку на дискредитацию и выдворение ксендзов.

15 августа 1995 года состоялся крестный ход верующих из Шерешево в Пружаны по случаю праздника Вознесения Девы Марии. Эта традиция существует более ста лет. Все прошлые годы верующие совершали эти шествия, не оформляя никаких заявок. За этот крестный ход ксендз Э.Лоек не агитировал, не организовывал его и даже участия в этом шествии не принимал. Все это было организовано и проведено костельным комитетом. Шествие носило абсолютно мирный и религиозный характер, представители милиции спокойно наблюдали за ним, не чиня никаких препятствий. Вокруг шествия крутились какие-то люди с видеокамерой (как позже выяснилось, они готовили улики против ксендза).

Около двух месяцев никто не вспоминал об этом шествии, но вот 2.10.95 г. ксендза Э.Лоека вызвали в Совет по делам религий при Брестском облисполкоме, изъяли у него справку на право работать в Шерешевском и Пружанском приходах и вручили предписание покинуть территорию Республики Беларусь за грубое нарушение Закона.

Попытки прихожан выяснить в чем же конкретно проявилось нарушение Закона ксендзом Э.Лоеком ни к чему не привели. Председатель Совета по делам религий Жук М.Ф. заявил, что ксендзы творят в стране всякие безобразия, а в отношении нашего ксендза у него есть указание свыше. А его заместитель Марченко вообще предложил проводить крестный ход не пешком, а в автобусах (что здесь скажешь, если так рассуждает специалист по делам религий).

В Пружанах состоялся суд, который наказал виновных в организации шествия – старост Шерешевского и Передельского приходов. Когда решение суда было предъявлено в Совет по делам религий, там заявили, что суд для них не указ, а они сами знают, что ксендз виноват и сами принимают решение о его высылке. Члены костельного комитета заявили, что это беззаконие и чиновничий произвол. В Совете по делам религий обиделись, но вразумительного ответа, в чем же заключается вина ксендза, так и не дали.

После этого группа верующих (около пятидесяти человек) из Пружан и Шерешево поехали в Брестский облисполком с письменным заявлением к председателю В.А.Заломаю. С председателем делегации встретиться не удалось, но заявление приняли и обещали в месячный срок дать ответ.

И ответ не заставил себя ждать. Утром следующего дня ксендзу Э.Лоеку позвонили из паспортного стола и потребовали срочно прибыть в ОВИР для того, чтобы закрыть визу на въезд в Беларусь (такова была реакция властей на законные требования верующих).

В этот же день члены костельного комитета отправились к прокурору Брестской области с жалобой на незаконные действия областной власти. К чести главного прокурора области, он с большим вниманием отнесся к заявлению прихожан и обещал в кратчайший срок разобраться в этой ситуации.

И уже через день ксендз Э.Лоек по телефону был проинформирован председателем Пружанского райисполкома, что ему уже не нужно ехать в ОВИР, а следует прибыть в Совет по делам религий и получить обратно справку на разрешение работать в костеле.

Таким образом, уважаемая редакция, мы – прихожане Шерешевского костела – отстаивали не ксендза-нарушителя Закона, как это можно понять из статьи А.Дащинского. (Ксендз Э.Лоек, как иностранный гражданин, вообще не имеет права подавать заявку на шествия).

Мы отстаивали законность и справедливость, и пока отстояли. Значит еще не все потеряно в нашем, мягко говоря, не совсем правовом государстве. Сегодня чиновникам не удалось дискредитировать невинного человека-священника, посвятившего жизнь и отдающего все силы богоугодному делу.

Но ведь негласная государственная политика в отношении католической церкви остается прежней. Власть придержащие чиновники делают все, чтобы дискредитировать католических священников путем подтасовки фактов, клеветы, подлога и т.д. Они пытаются формировать общественное мнение против ксендзов в средствах массовой информации, обвиняя их в нарушении законов, всячески фальсифицируя факты. Вряд ли они делали бы это по собственной инициативе. У них есть указание свыше и они трудятся над его выполнением в поте лица.

Мы надеемся, что ваша газета будет и впредь бороться с произволом и беззаконием в стране и хотим, чтобы СВАБОДА рассказала своим читателям, что с властями тоже можно бороться за законность и справедливость.

**Костельный комитет: Чижевский И.А., Неживинский И.Н., Гришкевич К.А., Васькевич И.Н., Гришкевич Ф.В.**

*Шерешево, Пружанский район Брестской области*

